# Навокал — свет цудоўны

«Прыдзіце і паглядзіце на справы Божыя», — спяваецца ў 65-м псальме. Ці не найвыразней праяўляюцца для нас, дзяцей, справы Божыя тады, калі мы часцей і пільней углядаемся ў навакольны свет? Будзем жа беражлівымі да справаў рук Божых! І ні ў якім разе не забывайма: усё, што ходзіць, бегае, лятае, поўзае, расце пад гэтым небам, мае права на жыццё.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

* * *

*Мы з Езусам — дзве тысячы гадоў.*
*Мы кожны дзень Ягоным сэнсам напаўняем.*
*У Божай ласцы, у апецы мы жывём*
*І іншага для шчасця не жадаем.*

*Будзь з намі, Божа! Кожны новы дзень*
*Багаслаўляй Бацькоўскаю рукою.*
*Евангелле хай свеціць для ўсіх дзяцей*
*І напаўняе іх жыццё Тваёй любоўю.*

*І. Ж.*



*Часопіс «Ave Maria» №7 1999 г. («Маленькі рыцар Беззаганнай»)*
*Рэгістрацыйны №225. 220030, г. Мінск, пл. Свабоды, 9.*
Надрукавана ў друкарні айцоў францішканаў у Непакаланаве (Польшча).
Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 10.07.99.
Фармат 70Х100. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 000 экз.
Выданне падрыхтавана рэдакцыяй *часопіса «Ave Maria».*
Рэдактар — Ірына Жарнасек,
мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч,
камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.



### 3 чэрвеня
### Цела і Крыві Хрыста

Пад выглядам Хлеба і Віна сярод нас ёсць Езус, а калі мы прымаем Цела і Кроў Хрыста, то тым самым выконваем Ягоны наказ: «Бярыце і ешце... Бярыце і піце...» Зямны хлеб патрэбны для падтрымкі нашага фізічнага жыцця, Эўхарыстычны ж хлеб патрэбны для ўмацавання нашых духоўных сілаў.

### 11 чэрвеня
### Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса

Не выпадкова гэтая ўрачыстасць адбываецца ў пятніцу. Бо менавіта ў гэты дзень Сын Божы і Сын Чалавечы найвыразней паказаў чалавецтву, як Ён яго любіць. Ці ж маем мы права не адказаць на такую вялікую любоў?



### 12 чэрвеня
### Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі

Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі беззаганнае, не заплямленае грахом. Яно ніколі не ведала і не ведае злосці, нянавісці, пагарды. Гэтае Сэрца для нас — прытулак і дапамога.

### 24 чэрвеня
### Нараджэнне св. Яна Хрысціцеля



Езус назваў яго «найвялікшым з людзей». Гэта ён падрыхтаваў дарогу, па якой да людзей прыйшоў Хрыстус. Таму ўсе вернікі так любяць яго і ў Касцёле адзначаюць не толькі дзень ягоных народзінаў для неба (дзень смерці 29 жніўня), але і дзень нараджэння для жыцця на зямлі. У літургічным календары, акрамя св. Яна Хрысціцеля, мы адзначаем дзень нараджэння для жыцця на зямлі толькі Езуса Хрыста і Маці Божай.




### 27 чэрвеня
### Маці Божай Нястомнай Дапамогі





**29 чэрвеня**

**Святых Пятра і Паўла**

У Касцёле для кожнага ёсць месца. На першы погляд, што магло быць агульнага паміж простым рыбаком з Галілеі (Пятром) і вучоным (Паўлам)? Аднак жа абодва сталіся слупамі Касцёла, і для кожнага Пан Бог вызначыў апостальскую місію. Ён паслаў Пятра абвяшчаць Евангелле габрэям, Паўла — паганам. Вельмі важна кожнаму чалавеку знайсці сваё месца ў Касцёле, каб з найбольшай карысцю аддаць Богу свае здольнасці і талент.



**2 ліпеня**

**Маці Божай Будслаўскай, апякункі нашага Краю**

Мястэчка Будслаў, што ў Мядзельскім раёне, назаўсёды пазначана незвычайнай, цудоўнай падзеяй: тут у XVI стагоддзі айцам бернардынам аб'явілася сама Маці Божая. Цяпер на гэтым месцы ў Будславе — прыгожая малая базыліка ў Яе гонар. І сёння тут таксама ёсць айцы бернардыны. Яны і сёлета 2 ліпеня сустракалі з усіх куткоў Беларусі пілігрымаў, якія прынеслі ў сваіх сэрцах падзяку, адданасць і жаданне верна служыць Маці Божай Будслаўскай.

**11 ліпеня**

**Святога Бенедыкта, апекуна Еўропы**



Ён жыў у першай палове I тысячагоддзя ў Італіі. Заснаваў 12 кляштараў, у кожным з якіх знаходзілася па 12 манахаў. Пазней ён заснаваў закон бенедыктынаў і напісаў для яго правілы, якія да сённяшняга дня выкарыстоўваюцца многімі супольнасцямі законнікаў. Часта на ягоных абразах можна ўбачыць надпіс Ansculta Sili, што азначае: Сыне, будзь паслухмяны.



**25 ліпеня**

**Святога Крыштафа**

Калі вашы бацькі маюць уласны аўтамабіль, то ў ім абавязкова павінен знаходзіцца абразок гэтага святога з Дзіцяткам Езусам на плячы, якога ён некалі перанёс цераз бурную раку.



Святы Крыштаф — апякун усіх падарожнікаў. Таму, выпраўляючыся ў дарогу, не будзем забывацца прасіць у яго: «Святы Крыштофе, маліся за нас!»



**14 жніўня**

**Святога Максіміліяна Кольбэ**

Гэта дзень ягонай пакутніцкай смерці і нараджэння для неба. Святы Максіміліян ахвяраваў сваё жыццё за аднаго мужчыну, які меў сям'ю. Тым самым святы Максіміліян паказаў, як моцна ён любіць дзяцей. Мы ж, чытачы «Маленькага рыцара Беззаганнай», удзячныя яму за тое, што ён заснаваў наш часопіс, які цяпер разышоўся па многіх краінах свету і вучыць дзяцей любіць Пана Бога і Маці Божую.



**15 жніўня**

**Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі**

Яна была святая пры жыцці і таму пасля свайго зямнога жыцця была ўзята Панам Богам у неба. Той, хто імкнецца быць да Яе падобным, таксама можа заслужыць вечнае жыццё.

**22 жніўня**

**Найсвяцейшай Панны Марыі, Каралевы неба і зямлі**

Няма на свеце іншай такой Каралевы. Яна адзіная, прызначаная на гэтую высокую пасаду самім Панам Богам - Валадаром свету.

**8 верасня**

**Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Вялікае і радаснае свята, бо ў гэты дзень нарадзілася тая, якая дала свету Збавіцеля, Езуса Хрыста.



**29 верасня**

**Арханёлаў Міхала, Габрыэля і Рафала**

Смелы Арханёл Міхал не пабаяўся ў Імя Бога вытрымаць сур'ёзную бойку з самім злым духам. Ён перамог у гэтым змаганні і тым самым прынёс шмат радасці людзям. На Беларусі ж яго асабліва любяць яшчэ і за тое, што ён з'яўляецца апекуном нашай краіны. Таму ўсе мы молімся: «Святы Міхале, першы абаронца Валадарства Хрыста, маліся за нас!»

# Рыцар Беззаганнай

*Працяг. Пачатак у мінулых выпусках «Маленькага рыцара Беззаганнай».*

## У Рыме

Кожны каталік марыць пабыць у Рыме. Брат Максіміліян жыў у «Вечным Горадзе» і быў вельмі шчаслівы, што менавіта тут ён вывучае філасофію і матэматыку. У вольны час разам з сябрамі ён выбіраўся на праходкі па Рыме. Пасля іх да маці ляцелі лісты, напоўненыя цікавымі ўражаннямі і перажываннямі.

Некалькі разоў яму давялося сустракацца з Папам Рымскім і атрымаць благаславенне Святога Айца. Сэрца брата Максіміліяна ў такія хвіліны часта білася, а ў галаве пралятаЛі думкі: «Які ўсё ж вялікі і святы наш каталіцкі Касцёл! Чаму ж яшчэ не ўсе ведаюць пра Хрыста і Маці Божую?» У такія хвіліны брата Максіміліяна перапаўняла жаданне місіянерскай працы. Ён марыў пра той час, калі стане святаром і зможа весці людзей да Бога. Але пакуль... Пакуль трэба было вучыцца...

Незаўважна праляцеў першы год вучобы. Брат Максіміліян паспяхова здаў экзамены, улетку адпачыў у францішканскім кляштары, які знаходзіўся ў старым італьянскім гарадку сярод апельсінавых садоў ды вінаграднікаў.

Увосень брат Максіміліян разам з сябрамі зноў вярнуўся ў Рым і распачаў другі год сваёй вучобы. І ўсё было б цудоўна, калі б не нечаканая хвароба. Ён пашкодзіў на руцэ палец, які «не хацеў» зажываць. Доктар сказаў, што пашкоджана костка і патрэбна даволі складаная аперацыя. Даведаўшыся пра гэта, рэктар семінарыі паклікаў да сябе брата Максіміліяна і падаў яму маленькую бутэлечку з вадою:

— Гэта вада з Люрда*. Калісьці ў мяне моцна балела костка на назе. Мне ўжо збіраліся ампутаваць нагу, але



мая маці дастала дзесьці цудадзейную ваду. Яна адкінула ўсе бінты, мазі, вымыла маю нагу і прыклала да раны анучку, змочаную ў вадзе Люрда. І здарыўся сапраўдны цуд: назаўтра я быў ужо здаровы. Пасля гэтага доктар, які мяне лячыў і сцвярджаў, што ён атэіст, навярнуўся да Бога. Так што, памаліся, браце Максіміліяне, папрасі ў Маці Божай дапамогі, а потым паспрабуй лячыць сваю рану Яе вадою.

Брат Максіміліян зрабіў так, як яго вучыў рэктар. Якой жа была ягоная радасць, калі на другі дзень палец на руцэ пачаў загойвацца, а праз некалькі дзён ад ранейшае раны не засталося і следу! Брат Максіміліян у малітве дзякаваў Богу і Найсвяцейшай Маці, а ў душы адчуваў, што ён у вялікім даўгу перад Маці Божай.

---

** Люрд — месца аб'яўлення Найсвяцейшай Панны Марыі ў Францыі.*

*Паводле кнігі: Maria Kączkowska «Ojciec Kolbe», Niepokalanów, 1980.*





# Вельмі важна быць патрэбным

*У нас у гасцях — ксёндз сэрцанін Марк Казьмерчак*

**— Ксёндз Марк, я ведаю, што Вы ўжо шмат гадоў працуеце ў Касцёле з дзецьмі. Не надакучылі яны Вам? Бо вядома ж, што з імі часам і клопату хапае.**

— Ці надакучылі? Не! Больш за тое: я лічу, што дзеці павінны прысутнічаць ва ўсіх касцельных справах. Ну а што гарэзы — дык гэта ж узрост такі. Мы таксама былі і гарэзамі, і неслухамі.

**— Дарэчы, Вы сапраўды былі неслухам?**

— Як Вам сказаць... Памятаю, ксёндз вікары перашкодзіў мне некалі есці цукерку ў часе Святой Імшы і вывеў за вуха з касцёла. Але больш такіх прыгодаў ужо не здаралася.

**— Колькі Вам тады было гадоў?**

— Прыкладна дзесяць.

**— А Вы былі міністрантам у сваім парафіяльным касцёле?**

— Так. Але стаў ім даволі позна. Рыхтаваўся на ўроках рэлігіі стаць міністрантам, ды так здарылася, што не мог быць на той Святой Імшы, на якой было ўрачыстае прыняцце ў міністранты. Памятаю, моцна перажываў, але што ж зробіш.

**— Мабыць, некаторых нашых чытачоў здзівіла тое, што Вы кажаце. Хіба на міністранта трэба вучыцца? Здаецца, гэта так проста: адзеў комжу і ідзі сабе да алтара.**



— Вучыцца абавязкова трэба. Кожны вернік павінен разумець, наколькі важная і адказная літургічная служба. Тут выяўляецца наша вера і пашана да Бога. А да таго ж, кожны міністрант мае пры алтары свае абавязкі. У дзесяцігадовага хлопчыка яны адны, у пятнаццацігадовага — іншыя, больш складаныя. Бо існуе некалькі ступеняў міністрантуры. Інакш кажучы, расцем мы — растуць і нашыя задачы пры алтары.

**— Цікава. Але ці ўсе міністранты гэта разумеюць?**

— Мабыць, не ўсе. Трэба вучыцца. Гэта можна рабіць і з дапамогаю «Маленькага рыцара Беззаганнай».

**— Што ж, лаўлю Вас на слове, ксёндз Марк. Ці згадзіліся б Вы на старонках нашага часопіса правесці некалькі гутарак для хлопчыкаў пра абавязкі міністранта?**

— Нечаканая прапанова. Але можна падумаць. Я сам выхоўваўся ў такой парафіі, дзе мы не толькі вучыліся добра выконваць свае абавязкі пры алтары, але і цікава праводзілі сумесна наш вольны час.

**— Тады і адбылося Ваша пакліканне?**

— Так... Служба пры алтары, безумоўна, фарміруе чалавека, наближае яго да Бога. Але і гульні, забавы на рэчцы альбо ў лесе таксама могуць быць напоўнены Божай прысутнасцю.

**— Таму Вы, стаўшы святаром, шмат увагі надаеце адпачынку**

**дзяцей? Многія хлопчыкі і дзяўчынкі ведаюць пра летнік «Канікулы з Богам», які Вы арганізуеце і пабыць у якім дзеці лічаць за шчасце.**

— Як кажуць, спазнаў сам радасць — падзяліся ёю з іншымі.

**— Радасць? Многія дарослыя наракаюць на тое, што, папрацаваўшы з дзецьмі...**

— Я таксама стамляюся. Але больш усё ж радасці. Неяк пачуў, што ксёндз, які працуе ў аазісах, ужо «хворы» на іх.



*Неўзабаве пачнецца Святая Імша.*

**— У такім разе я жадаю Вам заўсёды быць здаровым. А дзеці таксама, як мне здаецца, «хварэюць» на аазіс. Сама бачыла, як некаторыя хлопчыкі і дзяўчынкі плакалі, ад'язджаючы з камайскага летніка. Цікава, а Вы таксама плачаце, альбо ўсё ж цешыцеся, што вось, нарэшце, адпачнеце як след?**

— Я не плачу, бо ведаю, што некалі недзе мы абавязкова сустрэнемся зноў. Для мяне найвялікшая ўзнагарода, калі дзеці палюбяць наш летнік з ягоным даволі строгім укладам жыцця. Многія, толькі прыехаўшы, пачыналі плакаць і прасіцца дахаты. А потым так палюбілі летнік, што са слязьмі пакідалі яго. За ўсё гэта я вельмі ўдзячны клерыкам, дыяканам, сёстрам-законніцам, якія дапамагаюць мне арганізоўваць наш аазіс.

*Пасля заняткаў па рэлігіі.*



**— Што б Вы пажадалі нашым чытачам?**

— Адчуць, што яны патрэбныя і шмат значаць для сваёй сям'і, парафіі, для сяброў. Гэта вельмі важна — ведаць, што ты некаму патрэбны. А таксама жадаю ўсім дзецям навучыцца шырока расплюшчанымі вачыма ўглядацца ў навакольны свет і распазна- ваць у ім цудоўныя справы Бога.

*Гутарыла*
*Ірэна Задарожная*

# РАЗМНАЖЭННЕ ХЛЕБА

**Паводле святога Мацвея,**

*раздзел XIV, вершы ад 15 да 21*

Калі ж звечарэла, прыступілі да Яго вучні Ягоныя і сказалі: **«Пустэльная тут мясціна, і час ужо позні; адпусці людзей, каб яны пайшлі ў селішчы і купілі сабе ежы».**

Але Езус сказаў ім: **«Не трэба ім ісці, вы дайце ім есці».**

Яны ж кажуць Яму: **«У нас тут толькі пяць хлябоў і дзве рыбіны».**

Ён сказаў: **«Прынясіце іх Мне сюды».**

І загадаў народу ўзлегчы на траву і, узяўшы пяць хлябоў і дзве рыбіны, узвёў вочы ў неба, благаславіў, паламаў і даў хлябы вучням, а вучні — народу.

І елі ўсе, і наеліся; і набралі рэшты кавалкаў дванаццаць кашоў поўных.

А тых, што елі, было каля пяці тысяч чалавек, апроч жанчын і дзяцей.





# ПРАЗ НАШЫЯ СЭРЦЫ І РУКІ

Езус добра ведаў, што такое голад. Ён загадваў раздаваць бедным і галодным тыя грошы, якія добрыя людзі збіралі для Яго і Апосталаў. Езус умеў дзяліцца з галоднымі.

Аднаго разу Ён цудоўным чынам размножыў пяць хлябоў і накарміў ім больш за пяць тысяч чалавек. Тады ўсе цешыліся і весяліліся, бо нарэшце прыйшоў Той, хто здольны накарміць усіх.









Так, Пан Езус здольны гэта зрабіць. Але Ён хоча, каб мы былі Яго надзейнымі памочнікамі. Толькі ж ці заўсёды мы самі гатовыя падзяліцца кавалкам хлеба, смачным пірагом альбо цукеркай з тымі, хто гэтага не мае? А можа мы часам проста не хочам заўважаць галодных вачэй? І ці заўсёды мы ўмеем шанаваць хлеб так, як ён таго заслугоўвае?

Не выпадкова, што Пан Езус прыходзіць да нас менавіта пад выглядам хлеба. Ён хоча праз нашыя добрыя сэрцы і рукі размнажаць хлеб для галодных і лекі — для хворых. Станьма ж Ягонымі надзейнымі памочнікамі!



# НА ГАРЫ КАРМЭЛЬ

Высокая гара Кармэль знаходзіцца на мяжы паміж Галілеяй і Самарыяй. Кажуць, што некалі ў ёй быў грот прарока Іллі, у якім ён вымольваў у Бога дождж для Ізраіля, пакаранага за грахі трохгадовай засухай. Потым у скальных пячорах гэтай гары збіраліся пустэльнікі, там жа з'явілася некалькі кляштараў, сярод якіх быў і кляштар кармэлітаў. Пэўны час іх закон перажываў крызіс. Тады ягоны генерал Сымон Сток звярнуўся да Маці Божай у глыбокай малітве, просячы ў Яе дапамогі. І Маці Божая пачула яго...

16 ліпеня 1251 года Яна з'явілася перад Стокам у атачэнні анёлаў. У руцэ Маці Божая трымала шкаплер (маленькія абразкі на шнурку, якія трэба насіць на шыі) і прамовіла: «Вазьмі гэты шкаплер свайго закону як асаблівы знак маёй ласкі да цябе і ўсіх кармэлітаў. Гэта знак аб'яўлення, зарука спакою і вечнага саюзу. Чалавек, які памрэ ў шкаплеры, — не спазнае пякельнага агню».

Пазней шкаплер з'явіўся ў брацтвах свецкіх людзей, якія паўставалі пры манаскіх ордэнах. Яму быў нададзены сімвал «салодкага ярма Хрыста», якое трэба несці ахвотна і радасна.

Лічыцца, што шкаплер — надзейная абарона ад шатана. Да брацтваў святога шкаплеру здавён належалі вялікія правадыры, гетманы, рыцары, якія насілі яго на сваіх кальчугах.

У літургіі 16 ліпеня мы просім у Маці Божай дапамогі, каб магчы калісьці шчасліва дайсці да святой гары, якой з'яўляецца Хрыстус.



# СУСТРЭНЕШ ІХ У БІБЛІІ



## Голуб

Гэтая птушка вельмі часта ўзгадваецца ў Святым Пісанні. Галубы вылучаюцца сваёй чысцінёй, лагоднасцю, міралюбствам. Напэўна, таму Езус Хрыстус наказваў сваім вучням: «Будзьце мудрыя, як змеі, і простыя, як галубы» (пар. Мц 10, 16).

У гэтых птушак некаторым людзям карысна было б павучыцца сяброўству і любові, бо вельмі рэдка можна ўбачыць, каб галубы біліся паміж сабой. Калі, напрыклад, адзін голуб дзесьці знікне, то тыя, хто застаўся, сумуюць па ім журботным буркаваннем.

Лічыцца, што галубы прыносяць людзям добрыя весткі. Згадаем, што ў часе сусветнага патопу менавіта голуб прынёс Ною радасную вестку. «Голуб вярнуўся ўвечары з маслінавым лістом у дзюбе. Ной зразумеў, што вада сышла з зямлі», — гаворыцца ў Кнізе Быцця (8, 11). Не выпадкова, напэўна, і тое, што Святы Дух у часе Хросту Езуса сышоў на Яго пад выглядам галубкі. Таму на абразах часам можна ўбачыць гэтую добрую, лагодную птушку.

## Лілея

Вельмі прыгожая пахучая кветка. У нас яе можна ўбачыць на клумбах альбо на азёрах (вадзяныя лілеі). А вось на лугах Палестыны гэтых кветак вельмі шмат. Іх прыгажосць усхваляў сам Езус: «Паглядзіце на польныя лілеі — як яны растуць. Не працуюць, не прадуць, але кажу вам, што і Саламон ва ўсёй сваёй славе не апранаўся так, як кожная з іх» (Мц 6, 28-29).

Лілеі маюць надзвычай прыемны водар. «Квітнейце, як лілеі, распаўсюджвайце пах, — кажа Сірах, — і спявайце песні» (Сір 29, 18). Са старажытных часоў кветкі лілеі ўвасаблялі чысціню і Божае святло. Таму на нябесных лугах, якія можна ўбачыць на палотнах мастакоў, лілеі адчуваюць сябе, як дома. Гэты сімвал беззаганнасці і чысціні часта ўпрыгожвае абразы Маці Божай, св.Юзафа, св.Антонія і іншых святых.









Лена Арлянковіч з Полацка з ранняга малецтва любіць жывёл. Калі толькі надаралася магчымасць, яна разам са старэйшай сястрой Вольгай наведвалі заапарк. Часам ёй удавалася пасябраваць з жыхарамі заапарку, як напрыклад, з гэтым паслухмяным поні. Нашмат цяжэй пасябраваць з пітонам, калі табе ўжо не пяць, а значна больш гадоў. Але і гэта, аказваецца, магчыма, калі толькі побач надзейны старэйшы сябар.



# І мы ў гэтым свеце

Шмат цікавых сустрэч і знаёмстваў чакае кожнага пілігрыма на яго шляху. Вось і гэтыя дзяўчынкі з Астраўца, якія сёлета ішлі па маршруце «Друя-Будслаў», таксама паспелі пасябраваць з грамадой авечак, што пасвіліся пры дарозе. Пасябравалі і разам сфатаграфаваліся. Праўда, за дзяўчынкамі на здымку дрэнна бачныя авечкі, але няхай ужо чытач нам паверыць — яны там былі.



Мар'ян ДУКСА

# Усмешка нябёсаў

О, кветка палёў,
о, далінаў лілея —
о, Божая Маці шчаслівага лёсу.
Як толькі лагоднае неба яснее —
здаецца, што Ты усміхнешся з нябёсаў.

Калі ў атачэнні вясёлых анёлаў
аднойчы Ты нашу зямлю пакідала,
над намі схіліўшы вясёлкава голаў, —
ах, як Ты любіла нас і шкадавала.

О, кветка палёў,
о, далінаў лілея —
о, Божая Маці, за нас памаліся,
каб нашы зямныя збыліся надзеі —
у неба таксама і мы ўзняліся.






# Святая Марыя, ратуй нас ад перуна!

Буры і навальніцы ўлетку здараюцца даволі часта. Многія з нас, напэўна ж, яшчэ і цяпер добра памятаюць, якія страшныя буры прайшлі летась па Беларусі. Жанчыны з Глыбоччыны распавядалі мне, што ў часе адной з такіх бураў ім здавалася, што неба сышлося з зямлёю. Светлым днём раптоўна стала так цёмна, нібыта раней часу надышла ноч. Густая залева дажджу абрынулася на зямлю, а частыя маланкі ды перуны, здавалася, ніколі не прамінуцца.

У такі час у многіх дамах успыхваюць свечкі, якія мы называем грамнічнымі і якія пасвячаем у касцёле 2 лютага — у свята Ахвяравання Панскага. У народзе здаўна замацавалася павер'е, што менавіта гэтыя свечкі ратуюць людзей ад перуноў. Таму мы заўсёды запальваем іх, калі з неба даносяцца грозныя раскаты грому. Але не толькі тады. Святло грамніцаў спадарожнічае нам усё жыццё. Калі чалавек прымае хрост, святар падае яму грамніцу, бо яе святло сімвалізуе веру ў Езуса Хрыста, якога Маці Божая ў свой час занесла ў святыню і ахвяравала Богу. Грамніцы таксама запальваюць у дзень першай Святой Камуніі. А яшчэ гэтую свечку запальваюць, калі чалавек паміраe, — каб святло Хрыста асвячала шлях у іншы свет.

Няхай жа святло грамнічнае свечкі, святло Хрыста асвятляе жыццёвы шлях кожнага чалавека.

*І.Барткевіч*

# Вы нам пішаце



*Прывітанне, «Маленькі рыцар Беззаганнай»! Піша табе Ігар Пятроўскі з Мінска. Я міністрант і даўно хацеў штосьці прачытаць пра святога Дамініка Савіо, бо мне казаў ксёндз, што гэты святы хлопчык з'яўляецца апекуном міністрантаў. У мінулым выпуску часопіса я прачытаў, як Дамінік смела абараняў святое імя Езуса, але, можа, «Маленькі рыцар», ты больш падрабязна распавёў бы пра яго? А яшчэ хочацца даведацца пра дзяцей, якія, нягледзячы на іхні ўзрост, былі прызнаныя святымі. Расказвай нам пра іх, «Маленькі рыцар»!*

*Твой чытач і сябар Ігар Пятроўскі.*

## Пазнай свайго апекуна



Дарагі Ігар! Сёння ты прачытаеш пра кароткае, але вельмі яркае жыццё св. Дамініка Савіо. Ён з'яўляецца апекуном не толькі міністрантаў, але і ўсіх дзяцей, моладзі. Будзем жа вучыцца ў яго смеласці, высакародству, мужнасці. Гэтыя рысы характару патрэбны дзецям ва ўсе часы.

*Маленькі рыцар Беззаганнай.*

Дамінік нарадзіўся 2 красавіка 1842 г. у Італіі, у хрысціянскай сям'і. Трохі падросшы, стаў міністрантам і вельмі даражыў гэтым званнем. Часта задоўга да пачатку Святой Імшы Дамінік прыходзіў да Касцёла і маліўся перад зачыненымі дзвярыма. Яму дазволілі прыняць Святую

# Апякун міністрантаў

Камунію ў 7 гадоў, хоць у той час дзеці прыступалі да першай споведзі ў 12 гадоў. У той дзень Дамінік запісаў у сваім сшытку:

**У дзень першай Святой Камуніі абавязваюся:**

1. Часта спавядацца і прымаць Святую Камунію.
2. Усе святочныя дні святкаваць.
3. Маімі сябрамі стануць Езус і Марыя.
4. Лепш памерці, чым зграшыць.

Трэба сказаць, што ён застаўся верны дадзенаму слову.



У Дамініка было шмат сяброў, з якімі ён ахвотна бавіў вольны час, але ён ніколі не ўдзельнічаў у злых забавах і асцерагаў ад гэтага сяброў. Дамінік жыў і вучыўся ў Араторыюме св. Яна Боскі і быў не толькі ягоным добрым вучнем, але і надзейным памочнікам.

Аднаго разу знаёмыя хлопцы пасварыліся паміж сабою і, набраўшы шмат камянёў, вырашылі скончыць спрэчку на дуэлі. Калі паляцелі першыя камяні, Дамінік схапіў крыж смела стаў паміж забіякамі і гукнуў: «Глядзіце на крыж! Паўтарайце: «Езус памёр, прабачыўшы сваім ворагам, а я хачу помсціць!» Хлопцы застылі, і камяні самі выпалі з іхніх рук – бойка не адбылася.



# Хто такі міністрант

*Ministrare* – з лацінскай мовы, азначае *служыць*. Слова міністрант асабліва ўказвае на службу ў Святой Імшы.

**1. Міністрант з'яўляецца ПАМОЧНІКАМ пры адпраўленні Святой Імшы і ў часе іншых літургічных набажэнстваў.**

Ён прыслугоўвае святару падрыхтаваць алтар і пры прыгатаванні дароў для ахвяры Святой Імшы.

**2. Міністрант – гэта той, хто НЯСЕ ЗНАКІ**

Ён нясе некаторыя рэчы, неабходныя і важныя для літургіі. Гэтыя рэчы ўказваюць веруючым людзям на іншую рэчаіснасць.

**3. Міністрант павінен сам БЫЦЬ ЗНАКАМ**

Ён праз служэнне сведчыць, што кожнае літургічнае набажэнства, якое адпраўляецца ў касцёле, не толькі справа святара, але справа ўсяе парафіі і ўсіх вернікаў.

Міністрант праз сваё служэнне паказвае, што «удзельнічаць у літургіі» **не азначае** так, як у кіно пры тэлевізары **толькі** слухаць ці глядзець. «Удзельнічаць у літургіі» – гэта значыць таксама **саўдзельнічаць і сумесна ствараць** яе.

Дамінік шмат распавядаў сваім равеснікам пра Езуса і Марыю, і няўрымслівыя хлопчыкі ў такія хвіліны часта забываліся пра ўсе свае забавы. Аднойчы Дамінік прапанаваў ім стварыць Супольнасць Беззаганнай Панны. Хлопчыкі з энтузіязмам падхапілі ідэю. Так і паўстала гэтая цудоўная суполка.

Дамінік часта заставаўся пасля Святой Імшы ў апусцелым касцёле, каб у цішы паразмаўляць з Езусам. Неяк ён прастаяў перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам ажно сем гадзін! Часта сваім чуйным сэрцам ён адчуваў, што паблізу памірае чалавек, да якога трэба прывесці святара. Ён вёў туды свайго настаўніка Яна Боску, і ягоныя прадчуванні спраўджваліся.

Неўзабаве Дамінік цяжка захварэў. Дактары нічым не маглі яму дапамагчы. Усіх дарослых здзіўляла мужнасць хлопчыка і вялікая вера, з якой ён пакідаў гэты свет. Дамінік прыняў Найсвяцейшы Сакрамэнт і папрасіў бацьку маліцца за ягоную добрую смерць. Калі бацька маліўся, твар хлопчыка засвяціўся незвычайным святлом. Ён усклікнуў: «О, якую ж прыгажосць я бачу!» І – памёр. Было гэта 9 сакавіка 1857 г. – Дамінік не дажыў да пятнаццаці гадоў адзін месяц.

Пасля смерці Дамінік з'яўляўся свайму бацьку, а таксама настаўніку – Яну Боску. Дамінік прынёс яму вялікі букет з розных кветак, прадказваючы тым самым, што ягоны мудры настаўнік таксама будзе прызнаны святым. Тады ж ён сказаў Яну Боску: «Перадай усім хлопчыкам, каб яны ніколі не забывалі маліцца да Маці Божай!»

Просячы заступніцтва ў свайго апекуна – святога Дамініка Савіо – дзеці могуць маліцца такімі словамі:

**Пане Божа! Ты сам святы і без Цябе ніхто не можа дасягнуць дасканаласці. Праз заступніцтва святога Дамініка дапамажы нам жыць так, каб мы маглі прыняць удзел у Тваёй хвале. Амэн.**





# Райскі сад

***У садзе, які стварыў добры Пан Бог, жылі не толькі Адам і Ева, але там было і шмат іншых цікавых жывых істотаў. Якіх звяроў ты можаш знайсці на гэтым малюнку?***

***Прыгожа расфарбуй яго.***

*Кн. Быцця 2*

## Знайшоў выйсце

*– Тата, купі мне бубен.*

*– Ну, пэўна ж! А ты мне потым будзеш перашкаджаць працаваць.*

*– Але я абяцаю табе, што буду ў яго біць толькі тады, калі ты ляжаш спаць.*

## Не пазычаю...

На аўтобусным прыпынку хлопчык раз-пораз шморгае носам.

— Ці ты не маеш насоўкі? – пытае ў яго сябар.

—Маю, але чужым не пазычаю.

## Матэматык

*Настаўніца звяртаецца да Максімкі:*

*— Назаві чатыры афрыканскія жывёлы.*

*– Слон і тры жырафы.*



## Размяркуй лічбы

У сярэдзіну кожнага з 13 кружочкаў упішы лічбы ад 1 да 13 так, каб на кожнай прамой лініі, на якой знаходзіцца па тры кружочкі, атрымалася лічба 21. Лічбы не павінны паўтарацца!




## Атрымай 15

Ва ўсе пустыя ячэйкі ўпішы лічбы ад 1 да 9 так, каб у кожным вертыкальным і гарызантальным радзе атрымалася сума 15.

*Ірына ЖАРНАСЕК*

# МАЛЕЧА

## Казка

Вось якая гісторыя здарылася з адным шэра-зялёным калматым вусенем. Яго называлі Малечам, бо ён сапраўды быў прыкметна меншы за іншых вусеняў, якія разам з ім жылі ў вялікім зялёным кусце. Праўда, той куст быў зялёны ды прыгожы толькі там, дзе яшчэ не пабылі вусені. Там жа, дзе яны ўжо прапаўзлі, заставаліся дзіравыя, спрэс паедзеныя лісты, якія праз нейкі час чарнелі і ападалі долу, пакідаючы голыя галінкі. Але вусеняў гэта не засмучала, бо яны ведалі: калі на гэтым кусце ўжо не застанецца ніводнага зялёнага лісточка, яны перабяруцца на суседнія.

Вось і сёння чулася мернае шапартанне — поўным ходам ішло паяданне зяляніны. Адзін толькі Малеча ляжаў, скруціўшыся ў клубочак на сваім лістку, і яму чамусьці зусім не хацелася выпрастацца ды пачаць паядаць свой лісток.

— Эй ты, Малеча! Ці смачны хоць там у цябе ліст? — даляцеў да яго голас зверху.

Гэта быў, безумоўна, Шарак. Сёння яны яшчэ не бачыліся. Малеча любіў уранні позна паспаць. Ён, можна сказаць, быў выключэннем з правілаў. Бо вусені зазвычай прачынаюцца з першымі промнямі сонца. Прачынаюцца, наядаюцца ўдосталь пасвяжэлага ад расы лісця і потым зноў засынаюць, каб праз нейкі час зноў прачнуцца і... зноў пачаць есці. Малеча ж прачынаўся зазвычай тады, калі ягоныя суседзі елі другі альбо трэці раз. Елі і пасмейваліся з Малечы-гультая, які, вядома ж, затое і не расце, што лянуецца працаваць, гэта значыць, шмат есці. Але Малеча на іх не крыўдзіўся. Ён ляжаў на сваім лістку і думаў: «Су-у-умна! Ах, як усё гэта су-у-умна!»

— Эй ты! — зноў даляцеў да яго голас зверху. — Няўжо ты ўсё яшчэ дрыхнеш?

Малеча ўздыхнуў і азваўся:

— Не, я ўжо прачнуўся.

— Прачнуўся! — варухнуўся ліст над Малечам. — Добра, што хоць прачнуўся! Але ж яшчэ, вядома, не еў?

— Не-а, — лянiва прамовіў Малеча.

— Ну і не вырасцеш!

— Напэўна, не вырасту, — згадзіўся Малеча, а сам падумаў: «А дзеля чаго ўвогуле расці? Каб больш з'есці зялёнага лісця? Толькі дзеля гэтага? Ах, якое ўсё ж сумнае жыццё!»

Ліст над Малечам зноў гайдануўся, потым у ім з'явілася маленькая дзірачка, якая пачала хутка расці ўшыркі, і нарэшце праз яе высунулася калматая Шаракова галава. Шарак агледзеў Малечу ад хваста да галавы і прамармытаў:

— Не, ты ўжо, мабыць, ніколі не выправішся! І чаго ты, гэткі



гультай, нараджаўся вусенем?

— Я таксама шкадую аб гэтым, — уздыхнуў Малеча.

— Ну дык памры і ператварыся ў матылька, як гэта робяць некаторыя неразумныя вусені.

— У матылька? А хто гэта такі? — ажывіўся Малеча.

— Гэта такое брыдкае стварэнне з крыламі, якое пырхае над кустамі, травой, кветкамі і — ха-ха-ха! — зусім не пажырае ні травы, ні лістоў, ні кветак!

— А гэта магчыма? — усклікнуў Малеча. — Гэта магчыма — ператварыцца ў матылька? Я вельмі, вельмі хачу мець крылы! І зусім не хачу, каб пасля мяне заставаліся адны чорныя шматкі ад зялёных лісточкаў.

— Ну і дурны! — чмыхнуў Шарак. — Ператварайся сабе ў легкадумнага матылька. Але ж дзеля гэтага ты павінен памерці і нарадзіцца нанова!

— Па-мер-ці?! — спалохаўся Малеча, але падумаў і ціхенька спытаў: — А як гэта — памерці і нарадзіцца нанова?

— Трэба звіць вакол сябе кокан, адмовіцца ад смачнага лісця, перастаць зусім есці, сабраць усе свае сілы і моцна-моцна пажадаць, каб у цябе выраслі крылы. Але памятай: ты ўжо ніколі не зможаш зноў стаць вусенем, і ўсе смачныя лісты з'ядуць іншыя. Так што я на тваім бы месцы... Але што... што ты робіш?

— Праду кокан. Я хачу нарадзіцца нанова! І я зусім не хачу больш быць шкоднікам!

— Ну і дурны! Ах, які ты дурны! — уздыхнуў Шарак. — Ты нават не ацаніў, як гэта цудоўна — быць вусенем! Бо вусень...



Але ён не скончыў «павучаць». Маленькая шэранькая птушка пырхала ў гэты час з галінкі на галінку і дзяўбала тых вусеняў, якія не паспелі схавацца. Шарак таксама не паспеў... Птушка зірнула на ніжні лісток, ды там ляжаў не вусень, але нейкі шэры клубочак, увесь спавіты тонкімі ніцямі. Птушка ўспырхнула і пераляцела на суседні куст. А Малеча, напружыўшыся ўсім сваім маленькім целам, ляжаў і думаў, як гэта добра — мець крылы. «Я не хачу больш быць шкоднікам, — думаў ён. — Я хачу быць прыгожым матыльком, які не паядае прыгожыя расліны, але сваёй прысутнасцю робіць іх яшчэ прыгажэйшымі».

Раптам Малеча адчуў ва ўсім сваім маленькім целе вялікі боль. Ён зразумеў, што



памірае. Яму зрабілася вельмі страшна, і ён нават падумаў, што яшчэ сабраў бы сілы, каб разарваць свой кокан і надалей застацца звычайным вусенем. Але тады ў яго ўжо ніколі не вырастуць крылы, і тады ён на ўсё жыццё застанецца брыдкім шкоднікам.

— Не, я лепш памру, — шапнуў апошнімі сіламі Малеча і заплакаў, бо яму было вельмі страшна. Але потым Малеча ўсё ж перасіліў сябе і прашаптаў:

— Я памру і... нараджуся нанова. І ўжо ніколі не буду шкоднікам!

На суседніх лістах «працавалі» вусені — яны спяшаліся як мага больш з'есьці зялёнае лістоты да таго часу, пакуль на куст зноў не прыляцела птушка. Яны елі, прыслухоўваліся, ці не чутно чагосьці падазронага, і зноў елі, елі, елі. Толькі лісток, на якім ляжаў Малеча, не варушыўся. «Напэўна, гэты дурненькі Малеча памёр з голаду ад сваёй ляноты», — думалі пра яго суседзі, а самі елі, елі, елі...

...Кокан, у якім ляжаў Малеча, неспадзявана ўздрыгнуў — раз, другі, трэці. Калі б Малеча ўмеў крычаць, ён закрычаў бы ад болю. А потым... Потым ён закрычаў бы ад радасці, бо ў яго... у яго выраслі крылы! Яны рабіліся ўсё большыя і большыя, а калі ім ужо стала цесна ў кокане, яны прарвалі ягоны сувой і...

І над лістком успырхнуў маленькі яркі матылёк. Ён закружляў над сваім кустом, потым пераляцеў на суседні, потым далей і далей... Малеча быў шчаслівы, як ніколі дагэтуль. У яго выраслі крылы! Сапраўдныя крылы! А які ўсё ж цудоўны свет, аб прыгажосці якога ён нават не здагадваўся раней. Тады, калі ён быў вусенем, усё навокал яго мела шэра-зялёную афарбоўку. А цяпер!.. Цяпер вакол было столькі розных колераў! Малеча прысеў на рамонак і, не могучы стрымаць свайго



шчасця, пацалаваў яго. Рамонак усцешана гайдануў сваёй жоўта-белай галоўкай. Званочкі, якія раслі побач, таксама радасна заківалі сваімі галоўкамі, вітаючы Малечу. І нават задумлівы куст ляшчыны таксама ўсцешыўся прыгожаму яркаму матыльку, што кружляў вакол яго.

А па лузе ў гэты час ішоў хлопчык са сваёй маці. Хлопчык румзаў, размазваў слёзы па твары і вёў сваё:

— Хачу агрэсту! Ну і што, што ён зялёны? Ну і што, калі будзе балець жывот? Усё адно хачу! І чаго ты мяне прывяла на гэты луг — тут нічога цікавага няма!

— Але ж ты агледзься на бакі, — папрасіла маці.

Хлопчык адняў рукі ад твару і ўбачыў Малечу.

— Ой, мама! Паглядзі, які прыгожы матылёк! Зараз я яго злаўлю! — усклікнуў ён.

Але маці спыніла яго:

— Пачакай, сынок! Паглядзі, які ён прыгожы! Ты толькі падумай: яшчэ зусім нядаўна ён быў сумным вусенем і ведаў толькі адно — рабіць шкоду. Але потым яму надакучыў гэты няўдзячны занятак, ён захацеў змяніць сваё жыццё — і вось цяпер ён ужо не шкодны вусень, але прыгожы матылёк. Да таго ж, ён вельмі смелы, бо згадзіўся памерці дзеля новага жыцця. Добры Бог узнагародзіў яго за гэта сапраўднай красой і даў яму крылы для палёту. Гэтак і кожны чалавек можа стаць прыгожым і акрыленым, калі толькі адмовіцца ад сваіх кепскіх схільнасцяў.

Хлопчык задумаўся, назіраючы за палётам яркага матылька, а потым задумена прамовіў:

— Я таксама не хачу быць падобным да вусеня.

Ён агледзеўся на бакі і раптам убачыў, як папрыгажэў, заіскрыўся, засвяціўся ўсімі колерамі вясёлкі свет наўкола яго.



# *Веру, Пане...*



**1.** Ве-ру, Па-не, з грэ-ху зба- віў нас у- сіх. Ве- ру, ча- ла- ве-кам



стаў- ся Бо- жы Сын. То за- гад лю- бо- ві – крыж на пле-чы брацъ,



У Кась- цё- ле Сак- ра- мэн- там Най- свя- цей- шым стаць.



Ты вя-дзеш у веч-насць нас, дзе ча- ка- е рай, і да сэр-ца пры-ту-ля- еш.



**2.** Ты даеш мне сілу, пасылаеш моц,
Дорыш мне спакой там, дзе пужае ноч.
Ты – мой паратунак, не загіну я,
Бо мяне трымае моцна Божая рука.
Па жыцці з Табой пайду хоць на свету край,
І не стрэнуся з бядою.

**3.** Прагну жыць Табою, бо Ты Бог жывы,
Ты – мой шлях надзейны, годны назаўжды.
Сын Айца Спрадвечны, Наймудрэйшы сын,
Яснай праўдай свеціш, Божа, верным праз вякі.
Знікне боль, трывогі сум, праміне журба,
Бо Ты, Пане, ёсць са мною.

*Пераклад І. Ж.*



# Конкурс святога Францішка



**Руслан Берлін** з Віцебска вучыцца ў школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот. Ён вельмі любіць прыроду і часта адлюстроўвае ўбачанае ў малюнках. Прачытаўшы ў мінулым выпуску нашага часопіса пра «Конкурс святога Францішка», ён вырашыў прыняць у ім удзел і прыслаў у рэдакцыю свой малюнак. На ім мы бачым святога Францішка са сваімі сябрамі. Ці не праўда — зайздроснае гэта сяброўства?

Жадаем Руслану поспехаў у вучобе і новых цікавых малюнкаў. Няхай святы Францішак дапамагае табе, Руслан, быць добрым і ўважлівым да навакольнага свету. Для тых жа дзяцей, хто жадае напісаць Руслану ліст, паведамляем ягоны адрас: **210007, г. Віцебск, вул. Шмырова, 42, Віцебская школа-інтэрнат для дзяцей-сірот.**

## *Сябры!*

*З вялікай радасцю я атрымліваю кожны ваш малюнак, ліст. Асабліва, калі яны выкананы старанна, з любоўю, калі ў іх я магу даведацца пра вас і пра тое, чым вы жывяце. Паведамляю таксама, што «Конкурс святога Францішка» прадоўжаны да канца гэтага года. Таму чакаю ад Вас новых цікавых паведамленняў, вершаў, замалёвак, малюнкаў пра навакольны свет і пра тое, як трэба берагаць нашу Маці-прыроду. Лепшым працам абавязкова знойдзецца месца ў нашым часопісе.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

## Галерэйка



**«А пад крыжам Маці стала». Вольга Ашуркевіч, 11 год, г. Мінск.**



**«Добрая вестка». Марына Анохіна, 11 год.**



**«Уезд у Ерузалем». Вольга Ашуркевіч, 11 год, г. Мінск.**

*Данута БІЧЭЛЬ*

# У карагодзе хмарак і анёлаў

*У карагодзе хмарак і анёлаў*
*сусвет трымае белы Галубок,*
*а Галубку даў гэту сілу Бог.*

*Давайце заспяваем са Святымі!*
*Няхай на крылах Галубок падыме*
*наш Край з дрыгвы і да нябёсных брам*
*па той дарозе у высокі Божы Храм.*